# НІВА

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БГКТ

№ 24 (537) Год XI 12 ЧЭРВЕНЯ 1966 г. Цана 60 гр.

## УВАГА, НАСТАЎНІКІ!

**У сувязі з тым, што падручнікі па беларускай мове для V і VIII класаў не здадзены яшчэ ў набор, існуе небяспека (напэўна), што гэтыя класы апынуцца з новым навучальным годам без падручнікаў для навучання роднай мовы. Каб прыйсці з дапамогай настаўнікам і не панізіць навучання беларускай мовы, наша рэдакцыя вырашыла ад 1 верасня г. г. друкаваць (да паяўлення падручнікаў) неабходны матэрыял для навучання беларускай мовы ў V і VIII класах. Пастарайцеся, каб усе вучні гэтых класаў абавязкова зрабілі падпіску на «Ніву» да 10 жніўня г. г. Інакш застанецеся без дапаможнікаў.**

# У Райску

Райск — вёска, адна з найбольш пацярпеўшых ад фашысцкіх захопнікаў. Час загоіў многія раны, але некаторыя з іх засталіся. Менавіта тое, што старэйшых мужчын у Райску да сённяшняга дня вельмі мала. Спачываюць яны за вёскаю, у брацкай магіле. 16 чэрвеня г. г. як кожны год у Райску жалобнае свята, дзень, у які гітлераўцы распачалі змазваць з карты існаванне вёскі. Але вёска пасля вайны адрадзілася. Залечваючы надта цяжкія раны, пачала ўключацца ў ход мірнага жыцця.

*

У пачатку культурна-асветнага года ў Райску намерыліся арганізаваць курс асветы для дарослых. Ініцыятыва выйшла ад настаўнікаў мясцовай школы, але адразу горача падтрымалі яе некаторыя жыхары вёскі. Перад усім «запаліўся» С. Семянюк, які ў мінулых гадах на курсе для дарослых кончыў сёмы клас пачатковай школы. Але гэты курс мае іншы характар, не звязаны абсалютна з класамі. Ён знаёміць з некаторымі праблемамі гісторыі беларускага народа, яго літаратуры і культуры.

Асноўную прапаганду і заахвочванне правялі настаўнікі на бацькоўскіх сходах. На курс запісалася 24 чалавек, але хадзіла многа больш. Працу з курсантамі пачала настаўніца мясцовай школы Валянціна Мамотка. Вось што яна расказала аб курсе:

— У праграму, між іншым, мы ўключылі чытанне найцікавейшых твораў, апавяданняў, паэм. Я вымушана была выбраць тое, што сапраўды зацікавіла б і мушу сцвердзіць, што мне гэта ў нейкай меры ўдалося. Усё ж гэта курс, які не дае ніякіх правоў яго ўдзельнікам. Але з'явілася пэўная спецыфіка працы з маімі курсантамі. Мужчыны палюбілі творы ваенныя, а жанчыны — пра каханне. Калі разглядалі праблемы апошняй вайны, дык тут і я была слухачом, таму што многія з удзельнікаў курса былі на вайне і самі аб гэтым расказвалі. Так умацоўваўся наш калектыў. У праграме знайшліся, між іншым, творы Янкі Маўра. Калі я іх чытала, многія жанчыны плакалі. З увагай і захапленнем слухалі і мужчыны. Пасля прачытання такога твора наступала доўгая цішыня ў зале. Я гэтых твораў не каменціравала. Думаю, што многія курсанты перажывалі і прыпаміналі свой лёс і перажыванні, калі на іх вачах гінулі іх бацькі.

«Беларускі курс», так яго прывыклі называць, меў многа шырэйшую праграму як гісторыя і літаратура. В. Мамотка ўключыла сюды беларускія песні і драматычныя творы. Бо нічога так не яднае, як супольная праца над чымнебудзь. Настаўніца выкарыстала ўсе свае магчымасці, развучыла з прысутнымі на два галасы песні «Галіна», «Лясная песня» і іншыя, якіх калісьці навучылася будучы на беларускай філалогіі настаўніцкай студыі. Так паўстаў маленькі харавы калектыў, а развучаныя дзве сцэнкі: «Пярэстая Красуля» і «Мікітаў лапаць» — стварылі драмгурток. Калектыў, створаны пры курсе, выступаў на першамайскім сходзе і на здзіўленне нават самых настаўнікаў выступаў вельмі добра. Наведалі таксама вёску Гусакі. А хто яны, гэтыя курсанты? Можа некатарым і дзіўна, але гэта жанатыя і замужнія людзі. Для прыкладу прывядзем некатарых з іх: Аляксандр Петыга іграў Мікіту, дачка вучыцца ў першым класе, Зіна Федарук, якой дачка ў пятым класе, Жэня Шумская рэцытатар калектыву, Сяргей Семянюк найбольшы ініцыятар, браты Рыгор і Васіль Дамброўскія, Яўгенія Семянюк, Марыя і Шыман Федарукі — муж з жонкаю, Мікалай Чэрвінскі і толькі адна Зося Раецкая не замужняя.

Курс быў вельмі ўданы, сцвярджаюць настаўнікі і ўдзельнікі яго. Вельмі высока ацаніў таксама візітатар Кураторыі школьнай акругі ў Беластоку Пётр Пайкоўскі, які заўважыў, што такога курса яшчэ ў сваёй практыцы не візітаваў. Гаворачы аб удзельніках курса трэба дадаць, што прыймалі ў ім удзел амаль усе члены бацькоўскага камітэта. Курс неяк прычыніўся да яшчэ большай зацікаўленасці школаю. Бацькі, між іншым, улажылі вакол школы грамадскім чынам бетонны ходнік, зрабілі сцэну і іншыя працы.

Цешымся з так прыемнага і карыснага выкарыстання часу. Але разам з настаўнікамі і курсантамі маем пэўныя пажаданні да Кураторыі і ГП БГКТ. У Райску хочуць і ў наступным годзе весці такі курс, але на вышэйшым ўзроўні, а для гэтага патрэбны фільм, цікавая размова ці рэцытацыя найграная на магнетафонную плёнку, і іншыя дапаможнікі. Трэба было б над гэтым ужо цяпер падумаць.

**Аляксей Карпюк**

# ЦІ ПАГРАЖАЕ НАМ БЕСПРАЦОЎЕ

Яшчэ пасля першай сусветнай вайны Гайнаўка была маленькаю вёсачкай. Пачалося ад таго, як у 1916 г. немцы прывезлі невялікую фабрыку да вырабу шкіпінару і іншых хімічных рэчываў з дзерава і пабудавалі яе ў Гайнаўцы. Пасля заканчэння першай сусветнай вайны пабудавана тартак, а пасля паўстае другі тартак пабудаваны яўрэйскай суполкай. Такім чынам у Гайнаўку пачалі з'язджацца з Польшчы рабочыя і сяляне пабліскіх вёсак, шукаючы працы. І так, з маленькай прыпушчанскай вёсачкі вырастаў прамысловы гарадок. Рабочыя куплялі кавалачкі зямлі ў гайнаўскіх гаспадароў і з абенітаў і трацін будавалі сабе невялікія хацінкі. Сляды такой будовы яшчэ сёння бачым у Гайнаўцы. Так паўсталі раёны горада як «Жабя Горка», «Губерня», «Пляцоўка», «Юдзянка».

Гайнаўскія рабочыя сталіся слаўнымі на ўсю Польшчу. Часта яны да вайны арганізавалі забастоўкі, галадоўкі, а нават сумелі дырэктара фабрыкі ў мяшок усадзіць. Нездарма да вайны называлі Гайнаўку «Чырвонай Гайнаўкай». Актыўна тут дзейнічалі члены КПЗБ у горадзе і Грамады на вёсках.

У час нямецкай акупацыі жыццё ў Гайнаўцы на чатыры гады замерла. Шмат рабочых выехала, яўрэяў фашысты вывезлі. Напярэдадні вызвалення загартаваныя ў барацьбе з капіталістамі рабочыя не далі фашыстам знішчыць фабрык. У першыя дні пасля вызвалення рабочыя першымі сталі арганізаваць мясцовыя ўлады і першымі пайшлі ў фабрыкі, каб пусціць прадукцыю. Сёння Гайнаўка налічвае ўжо больш 13 тысяч жыхараў. Яе фабрыкі змянілі зусім папярэдні выгляд. Коштам некалькіх дзесяткаў мільёнаў злотых фабрыкі разбудаваліся, уведзена новыя машыны.

Усе фабрыкі і прадпрыемствы Гайнаўкі зараз далі працу 9623 рабочым, у тым 2573 жанчынам. Тут знайшлі работу многія сяляне суседніх вёсак.

Ці ўсе, хто жыве ў Гайнаўцы або ў аколіцы, маюць магчымасць атрымаць працу? Паводле даных аддзела затруднення Павятовай рады аказваецца, што для мужчын няма ніякай цяжкасці. Кожную колькасць мужчын, якія шукаюць працы, можна скіраваць у будаўляныя прадпрыемствы як у Беластоцкае прамысловае будаўлянае прадпрыемства ці Бельскае рамонтна-будаўлянае прадпрыемства, якія праводзяць будовы ў самай Гайнаўцы і адчуваюць недахоп рабочай сілы. Тут ахвотна прымаюцца рабочыя з прафесій муляра, сталяра, печніка, маляра і г. д. Але і невыкваліфікаваных рабочых таксама патрабуюць. Шмат рабочых (добра плацяць) патрабуюць меліярацыйныя прадпрыемствы, якія праводзяць меліярацыю на тэрыторыі павета. У канцы 1965 г. было зарэгістраваных 360 жанчын, якія шукаюць працы. І таму гэтая праблема даць працу жанчынам патрабуе хуткага вырашэння. Дзеля паправы такой сітуацыі ў паспулдзельчай аборы ў Дубінах рыхтуюць прывесці ў рух прадукцыю саламяна-ракітавага вырабу. Для пасадкі ракіты месца хапае. Каб была толькі зразумелая дапамога адпаведных улад, тады можна было б пусціць у рух прадукцыю ў 1967 годзе. Працу атрымала б тут каля 100 жанчын і 20 мужчын. На падставе аналізу стану затруднення на 1966—1970 гады выказваецца, што надвыжка рабочай сілы дасягне максімальна да 2200 асоб. Рэалізацыя інвестыцыі ў дзяржаўным промысле дазволіць стварыць 1200 месц працы.

(Працяг на стар. 5)



У гэтым месцы 400 гадоў таму стаялі войшкаўскія млыны (Да «Крыштанім В», стар. 3).

**УВАГА, АБСАЛЬВЕНТЫ СЯРЭДНІХ ШКОЛ!**

# ПРЫЁМ НА КАФЕДРУ БЕЛАРУСКАЙ ФІЛАЛОГІІ

Яшчэ ў чэрвені праводзіцца рэкрутацыю кандыдатаў на I курс Кафедры беларускай філалогіі пры Варшаўскім універсітэце на 1966/1967 навучальны год.

Зацікаўленыя гэтым напрамкам вышэйшай адукацыі абсальвенты сярэдніх школ, якія ўжо злажылі матуральныя экзамены, складаюць у сваіх школах прашэнні аб прыняцці на Варшаўскі універсітэт на спецыяльна надрукаваных аркушах, якія знаходзяцца ў дырэкцыях сярэдніх школ. Дырэктары школ удакументаваныя прашэнні павінны як найхутчэй даслаць на адрас: Uniwersytet Warszawski, Krakowskie Przedmieście 26/28. Абсальвенты сярэд-

(Працяг на стар. 2)

Наша акцыя

# Крыптанім „В"

# ВОЙШКІ

Войшкі паўсталі праўдападобна ў канцы XV стагоддзя ў выніку каланізацыі Падляшша надбужанскімі ўсходнеславянскімі плямёнамі, якую праводзілі літоўскія уладальнікі Бельска. У сямідзесятых гадах XVI стагоддзя Войшкі належалі да дзяржаўных уладанняў каралевы Боны і падпарадкаваны былі фальварку Сталовачы размешчанаму ў адлегласці звыш 10 кіламетраў ад Войшкаў. Называліся Войшкі тады Войснямі і ўваходзілі ў склад Антонаўскага войтаства, сядзібай якога былі Антановічы (цяпер Рыбалы).

У шасцідзесятыя гады мінулага стагоддзя, калі наступіла адмена прыгонніцкага права, царская камісія, якая праводзіла разняволянне сялян сцвердзіла, што ў Войшках не хапае сялянам дастатковай колькасці зямлі. 6 сялянскім сем'ям запрапанавана перанесціся ў Сталовачы, дзе мелі атрымаць належную ім зямлю. Сяляне не згадзіліся аднак на перанясенне. У выніку — войшкаўскія гаспадары атрымалі менш зямлі, чымсьці суседнія вёскі (участак у Войшках налічвае 12 гектараў, калі ў суседніх Рыбалах — каля 18).

### МЛЫНЫ

Зараз у Войшках няма аніводнага млына, але гадоў таму 400, у XVI стагоддзі ў Войшках над ракою Нарваю працавалі аж два вадзяныя млыны: адзін нейкага Хведкі Маматовіча і другі нейкіх Радковічаў.

### МОСТ

Кожны, каму прыйшлося ехаць самаходам з Беластока ў Бельск, памятае мабыць прыгожы мост на Нарве. Мост гэты называюць па-рознаму: плёскаўскім, рыбалаўскім і часам — войшкаўскім. У старыну аднак мост гэты лічыўся менавіта толькі войшкаўскім.

Найстарэйшыя звесткі аб войшкаўскім мосце маем з 1576 года. У гэтым менавіта годзе каралеўскія ўраднікі кантралюючы стан багацця Войшкаў занатавалі:

„Tamże był most, z którego płacywano mostowego do roku litewskich kop 5, spustoszał, ale ma być w roku 1576 naprawion, z którego w roku 1577 ma być pożytek".

Іншыя звесткі аб войшкаўскім мосце паходзяць з паловы XIX стагоддзя. Вядома, што ў гадах 1852 і 1853 праводзіліся капітальныя рамонты гэтага маста, якія каштавалі ўладу 3025 рублёў і 87 капеек. У гадах 1851 і 1854 праводзіліся драбнейшыя рамонты, якіх кошт -- 738 рублёў. Гэтыя параўнальна невялікія сумы на рамонты, а адначасова даволі частыя іх выдаткаванні сведчаць, здаецца, аб тым, што мост на Нарве не быў тады найлепшай якасці. Старэйшыя жыхары Войшкаў і іншых акалічных вёсак памятаюць драўляны мост з міжваеннага перыяду. Быў ён знішчаны ў час вайны.

### МОНЬКАЎСКІЯ ВОЙШКІ

У Беластоцкім ваяводстве ёсць яшчэ другая вёска Войшкі, далёка ад Войшкаў бельскіх, аж за Монькамі. Аднолькавыя назвы вёсак паходзяць адтуль, што калісьці, калі частка жыхароў перасялялася ў іншае месца і засноўвала новую вёску, прымала яна назву старой вёскі, з якой выйшлі яе жыхары. У сувязі з тым, што ў XV і XVI стагоддзях каланізацыя Падляшша адбывалася з поўдня, з-над Буга ў напрамку Ганёндза праўдзівым будзе сцверджанне, што монькаўскія Войшкі заснавалі перасяленцы з Войшкаў бельскіх. Зразумела, што зараз жыхары монькаўскіх Войшкаў не падобны ні па мове, ні па абрадах, ні па культуры. ні па веравызнанні да жыхараў Войшкаў бельскіх, з якімі спалучаюць іх вузы крыві і паходжання.

### ВОЙШКАЎСКІЯ ЯМШЧЫКІ

Постаць ямшчыка ўвекавечана ў рускай мастацкай літаратуры і ў шматлікіх песнях. Войшкаўскія ямшчыкі не былі мабыць падобнымі да лірычных герояў цыганскіх рамансаў, ці вершаў Аляксандра Пушкіна. Былі яны, калі верыць Бабро́ўскаму, аўтару манаграфіі Гродзеншчыны, брудныя, бедныя, а коні іх былі худыя. Не вядома нават, ці спявалі яны сваім «гаспадам» «заунылыя» песні — больш за ўсё — сядзелі ціха ды раздумоўвалі аб сямейных клопатах.

Пяройдзем аднак да справы. Праз Войшкі ў першай палове XIX стагоддзя пераходзіў даволі важны камунікацыйны і паштовы шлях, які спалучаў Вільню з Брэстам. Ішоў ён праз Гродна, Саколку, Беласток, Бельск і на Брэст. На тракце Беласток — Бельск была адна паштовая станцыя, менавіта Войшкі. Абслугоўвала яна 23 кіламетры паштовага тракту і мела 18 коней і 6 ямшчыкоў. Статыстыка Расійскай імперыі натуе, што ў сярэднім штодзённа каля 15 коней было на войшкаўскай станцыі ў раз'ездзе. Ямшчык атрымліваў 4 рублі ў месяц, апрача таго каля 3 рублёў месячна назбяралася з тзв. «націўку», якім частавалі ямшчыка багатыя чыноўнікі. Ямшчыкамі былі войшкаўскія сяляне. Праца на паштовым тракце выглядала наступным чынам: з Беластока ў Войшкі прыходзіла «брычка» з пасажырамі і паштовымі пакетамі. Трэба было хутка перапрагчы коні і адвязці «брычку» ў Бельск. У міжчасе частавалася пасажыраў гарачым чаем.

Працаўнік штаба расійскай арміі, які прыбыў на тэрыторыю сённяшняй Беласточчыны ў першай палавіне мінулага стагоддзя скардзіцца, што перапражка коней вельмі марудная: цягнецца яна часта 45 мінут. Затым на паштовых станцыях страшэнна брудна, а «станцыённыя сматрыцелі» маюць брыдкі звычай адказваць вельмі «дзёрзска» на крытычныя заўвагі нават высокіх начальнікаў з самога Пецярбурга.



Войшкаўская вуліца.



Над Нарваю ля Войшкаў паявіліся ў гэтым годзе «кэмпінгі» ПТТК.

Войшкаўская традыцыя пераказвае, што дарогаю гэтаю праязджалі неаднойчы на паляванні ў Белавежскую пушчу расійскія цары. Старыя жыхары Войшкаў талкуюць, што калі праз Войшкі ехаў цар, ураднікі сыпалі пад вербы цукар, каб цару здавалася, што гэта снег улетку. Апошняе з'яўляецца праўдападобна чыстай легендай, таму што легендай з'яўляюцца апавяданні старых жыхараў Войшкаў быццам бы на гэтай станцыі было звыш ста пар коней. Пярэчыць гэта выразна прыведзеным на пачатку архіўным дадзеным.

Паштовая лінія была зліквідаванай, калі пабудавалася Брэсцка-Віленскую чыгунку. У 1868 годзе сядзіба паштовай станцыі ў Войшках пераказана была нейкаму Здановічу. У 70-тыя гады сялібу гэту пераймае ва ўладанне Юліян Янушкевіч, нашчадкі якога гаспадараць тут па сённяшні дзень.

### ВОЙШКІ Ў СЯНКЕВІЧАЎСКІМ «ПАТОПЕ»

Войшкі ўвекапомніў вядомы польскі пісьменнік Генрык Сянкевіч у сваім рамане «Патоп». Апісваючы менавіта ваенныя прыгоды свайго героя Кміціца, успамінае ён аб бітве з войскамі здрадніка Радзівіла, якая мела адбыцца пад Войшкамі.

### 1000-ГОДДЗЕ

1000-годдзе Польскай дзяржавы Войшкі пастанавілі адзначыць па-свойму: працай грамадскім чынам. Забавязаліся яны менавіта ўпарадкаваць школьны пляц. Кожны з гаспадароў забавязаўся прывезці па два вазы жвіру і перапрацаваць пры будове агароджы школьнага пляцу па адным дню. Школьная моладзь забавязалася зрабіць каля школы кветнікі. Частка войшкаўскіх забавязанняў ужо выканана, частка выконваецца.

У сувязі з Днём дзіцяці войшкаўскія гарцэры сарганізавалі пастаноўку пад назвай «1000 гадоў гісторыі Польшчы». Была гэта інсцэнізацыя некаторых важнейшых падзей з гісторыі Польшчы. Інсцэнізацыя спалучана была з гістарычнымі загадамі і здабываннем спраўнасці «рыцара».

### ВОЙШКАЎСКІЯ ТЭЛЕВІЗАРЫ

Найбольш папулярным у Войшках з'яўляецца школьны тэлевізар. Каб даць магчымасць аглядаць яго жыхарам вёскі настаўнікі вызначылі нават чарговасць дыжураў вечарамі пры тэлевізары. Апрача таго ў Войшках ёсць 6 прыватных тэлевізараў.

### ВОЙШКАЎСКІЯ СТРАХІ

Войшкаўская традыцыя пераказвае нам два ўрочышчы, у якіх нешта страшыць. Зараз за Войшкамі ў напрамку Бельска знаходзіцца ўрочышча Чаховізна. Калісьці было тут непраходнае балота, парослае трасцінаю і рознымі хмызнякамі. «Абы балота — чэрці будуць — гаворыць старая беларуская прыказка. І ў войшкаўскай Чаховізне сядзець меў нейкі, нават высокай рангі, чорт. Даваў ён аб сабе звестку тым, што апоўначы запальваў на балоце тры свечкі.

На тзв. Бялянскім полі ў куце, дзе заходзяцца межы вясковых палёў, пахаваны вісельнік. Старыя, якія калісьці вадзілі коні пасвіць на начлег, апавядаюць, што ў гэтым месцы так нешта страшыла, што коні зводзіліся дыба і ўцякалі стрымгалоў з Бялянскага поля.

### ВОЙШКАЎСКІЯ ГАСПАДАРЫ НАРАКАЮЦЬ

Войшкаўскія гаспадары жывуць нядрэнна. Жывуць яны нават лепш чымсьці гаспадары суседніх вёсак, напрыклад, Рыбалаў. Тэлевізары, матацыклы, рознага роду сельскагаспадарчыя машыны — у Войшках рэч звычайная. Войшкаўскія гаспадары хочуць аднак жыць яшчэ лепш. І таму наракаюць на пануючую палітыку тзв. комплекснай механізацыі.

— Чаму, — кажуць войшкаўскія гаспадары, — той, хто мае адзін трактар, можа мець іх і дзесяць, а Войшкі не могуць мець ніводнага?

І дакучаюць павятовым і ваяводскім уладам, каб ім далі трактар.

Тое, што Войшкі не могуць мець трактара, справа нядобрая, з другога аднак боку цешыць факт, што найбольш пажаданым прадметам у Войшках з'яўляецца менавіта трактар.

УЛ. ПАУЛЮЧУК

Фота аўтара



Сын войшкаўскага ямшчыка — Лукаш Вавранюк у час размовы з суседкаю.



На жаль, гэты трактар не належыць да войшкаўскага сельскагаспадарчага гуртка. Дапамагае ён у перабудове войшкаўскіх дарог.



© PDF: Kamunikat.org 2024
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2024

# ГАРАДОЦКІЯ ЗАЛЕТЫ

Люблю наогул Гарадок. Гэтая звычайная асада нічым асаблівым не адрозніваецца ад іншых гэтага тыпу асад: Міхалова, Нараўкі, Кляшчэляў. І менавіта таму, на свой спосаб цікавы Гарадок: тыповыя праблемы, тыповыя людскія справы, жаданні і імкненні. Люблю хадзіць па гарадоцкай вуліцы, заглядаць у пыхцячую дымным парам «гасподу». У новапабудаваны Дом культуры, у скромныя гарадоцкія крамы, углядацца на звычайных прахожых гарадоцкай вуліцы. Над Гарадком аднак вечарэе, і ўпоцемках не распазнаць спозненых прахожых. Пойдзем тады лепш і прыгледзімся хаця б гарадоцкім вечарынкам.

Уся бяда толькі ў тым, што сапраўдных вечарынак зараз няма ў Гарадку. На вясковых вечарынках гадоў таму дзесяць тварыліся розныя рэчы: некаторыя дзяўчаты рабілі на дратах, або вышывалі нешта, хлопцы расказвалі «вострыя анекдоты», часам — усе спявалі. Але перад усім вясковыя вечарынкі — былі для залётаў: заляцаліся хлопцы да дзяўчат, а дзяўчаты да хлопцаў. Залёты былі розныя: малодшыя хлопцы шчыпалі дзяўчат, штурхалі пад бокі, псавалі работу. Старэйшыя «пускалі вочка», усе стараліся быць найбольш жартоўнымі, вясёлымі. Дзяўчаты перад усім спявалі і рабілі на дратах.

«Залёты» мелі характар публічнай ліцытацыі: хто спраўнейшы, хто весялейшы, хто галаснейшы і больш бадзёры.

— Вечарынкі, — гаворыць мая субяседніца Тамара Бурачэўская, — загінулі ў Гарадку недзе ў 1962 годзе. Ад таго часу моладзь, уласціва кажучы, перастала і спяваць супольна вечарамі. Чаму менавіта недзе ў 1962 годзе? Шукаю ў думках чагосьці, з чым можна было б спалучыць гэтую дату.

Ёсць! У 1962 годзе ў Гарадку рушыла фабрыка трыкатажнай вытворчасці.

Магчыма асацыяцыя гэтая рызыкоўная. ці спрымітызаваная, магчыма гэта не зусім так. Нешта аднак мабыць у гэтым ёсць, нейкая заканамернасць няўхільнага ўмірання старых форм міжчалавечых суадносін у цяні фабрычных комінаў. Нават тых невялікіх — гарадоцкіх.

Што ж тады робіць гарадоцкая моладзь вечарамі.

Пойдзем у бібліятэку, у дом культуры, у школу, ды запытаем.

У бібліятэцы кажуць:

Большасць нашых чытачоў — гэта моладзь. Статыстыка нашай бібліятэкі паказвае, што на 580 яе чытачоў, каля 380 — гэта людзі ва ўзросце да 20 гадоў. Ды і тыя пасля 20-ці — найчасцей яшчэ маладыя.

У доме культуры талкуюць:

— Гарадоцкая моладзь любіць сядзець у кавярні, хадзіць у кіно, аглядае тэлевізар. У Гарадку кожны, хто толькі хоча, можа пайсці «на тэлевізар»: у дом культуры, у школу, у фабрычную святліцу, да суседа. У Гарадку тэлевізараў многа і штораз іх больш.

У школе мне растлумачылі:

— Гарадоцкая моладзь вучыцца ў розных школах і рознымі спосабамі. Часта здараецца, што маладзік кіне школу, пажыве, пабачыць, што без навукі дрэнна, ды пасля 2—3 гадоў сам пачынае вучыцца ў школах для ўзрослых. Таму моладзь наша шмат часу праводзіць менавіта над сшыткамі.

Дзякую. Ну, а залёты? Ці гарадоцкая моладзь перастала адчуваць патрэбу адрозніцца, спадабацца?

Калі я вяртаўся з Гарадка, ехала са мною маладая пара: ён і яна. Ехалі ў Беласток у тэатр і былі праўдападобна закаханымі. Зрэшты, не перашкаджайма закаханым. Бо залёты ў Гарадку страцілі характар публічнай ліцытацыі, сталіся інтымнымі, зіндывідуалізаванымі, сталіся справай іх, і толькі іх — абоіх.

**Рыгор Паўлюк**
Фота аўтара



**У бібліятэцы гарадоцкага Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага.**

## КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

Падарунак Янкі Цялушэцкага з Новага Ляўкова, Гайнаўскі павет:

Аркадзь Куляшоў: Збор твораў, т. I і II; Д. Дефо — «Робинзон Крузо»; Я. Бурш — «Прамень думкі»; «Дзядзька Лявонь»; «Współczesna poezja radziecka na estradzie».

**Легенды нашай вёскі**

### ЯКАЯ ВЁСКА

Вёз мужык дрэва з лесу. Аж насустрач яму пан, ды пытае: «Што это за дзерэвня?» А мужык на гэта: «Розныя, паночку, дзерэўя: сасновыя, альховыя, бярозавыя». Пан раззлаваўся і кажа: «Много вас на свете такіх дураков?» А мужык адказвае: «Ой, паночку, мая жонка заквасіла цэлу бочку агуркоў. Прыедзьце, то і вас пачастуе».

**Яфім Радчук**
в. Дашы

# ЗА МІХАЛОВАМ

Калі хто не быў ужо некалькі гадоў за Міхаловам, у раёнах Юшкавага Груда і Шымак, і наведае гэтыя мясцовасці зараз, дык скажа, што тут многа чаго змянілася. Перш за ўсё зверне ўвагу на прыгожую палепшаную дарогу з Міхалова аж да Ялоўкі (больш 20 км). Шмат тут паявілася жвіраваных дарог ды яшчэ больш будуецца. Грамадскім чынам працягваецца будова дарог: Нова Воля — Сушча, Бандары — Шымкі, Шымкі — Навасады, Шымкі — Луплянка і іншыя. Змяняюць краявід не толькі абсаджаныя дрэвамі дарогі, але і прыгожыя блёкі. У Новай Волі красуецца надаўна пабудаваная школа, а некалькі кіламетраў за Новаю Воляй пры баравіным багне Гарбачоў узносіцца будынак і будуецца санатарыйны цэнтр лячэння ад рэўматызму. Пры дарозе да Ялоўкі, пры вёсцы Шымкі, упрыгожвае аколіцу белы двухпавярховы пункт аховы здароўя. Прыкладна 200 метраў далей, таксама надаўна пабудаваны, знаходзіцца пункт скупу жывёлы.

— Шымкі зараз як горад, — гаворыць жанчына, якую падвозілі мы таксоўкаю да пункту аховы здароўя. Ёсць тут і доктар, і акушэрка, і дэнтыст, і прэзідыум ГРН, і пошта, і сметанчарня, і тры крамы (спажывецкая, тэкстыльная і жалезных тавараў), і клуб-кавярня. Усяго гэтага яшчэ надаўна не было. Не было таксама пабудаванага пункту скупкі малака ў Багнюках, і крамы ў Юшкавым Грудзе, і дарогі — жвіроўкі Бандары — Юшкаў Груд. Адным словам змяняецца аколіца за Міхаловам, прыгажэе. (мх)

# ЯГАДЫ, ГРЫБЫ І... СЛІМАКІ

У 1965 годзе французы з'елі 100 тон польскіх слімакоў. З'елі б больш, але ў Польшчы больш не сабрана.

Жаб мы таксама не ўмеем есці, але заграніцай цана на іх ідзе ўверх. У мінулым годзе прадалі мы (таксама Францыі) 23 тысяч тон.

Прадаем мак. У яго экспарце займаем першае месца ў свеце. Гадоўля трусоў для заграніцы таксама надта паплатная рэч.

На Беластоцкай зямлі спецыяльнасць ляснога экспарту — гэта ягады і грыбы. З ягад — найбольш чарніцы, з грыбоў — смаршчкі, (гэта раннія грыбы, якія мы лічым воўчымі). Заграніца плаціць за іх найбольш і найахвотней), апенькі, лісічкі. Усё замала збіраем гэтых лясных прадуктаў. Не хапае людзей, якія б у сезоне заняліся гэтым і зарабілі добра. Дзённы заробак летам 100 зл.

Прадпрыемства «Лес» мае ў ваяводстве 300 пунктаў скупу лясных прадуктаў. Усе яны ў лясных ці прылясных вёсках. У сувязі з наблізіннем лета, калі лес наш адкрые свае багацці, прыпамінаем аб мажлівасці добрага зарабку.

Рэч цікавая, што заграніца заплаціць нам патрэбнымі дэвізамі за тое, што ў нас змарнуецца. Мы любім баравікі і свініну, замест смаршчкоў і зялёных жабак. (вл)

# МАТАРЫЗАВАНАЯ СМЕРЦЬ

Людзі матарызуюцца. Зараз на дарогах Беласточчыны ганяе амаль 90 тысяч розных аўтамашын і матацыклаў На працягу толькі аднаго мінулага года прыбыло іх Беластоцкаму ваяводству каля 20-ці тысяч.

**Аднačасова растуць лікі, якія складаюць жудасную статыстыку: 80 асоб забітых, 503 пакалечаных, 284 разбітых аўтамашын і матацыклаў. Гэта на працягу аднаго 1965 года.**

З прыходам вясны і лета дарогі зноў запоўніліся матацыкламі і аўтамашынамі. Ізноў смерць топча па пятках. **Месяц красавік: 37 выпадкаў, 6 асоб забітых, 44 — параненыя.** Найбольш вінаватых — сярод п'яных матацыклістаў. П'янства і яшчэ раз п'янства — галоўная прычына людскога няшчасця на дарогах. Калі хто сядзе за рулём на двух «газах», ведай, што машынай кіруе **кастуха.** Ён сам у небяспецы і ўсе тыя, хто знойдзецца з ім па-суседску.

Многа ахвяр сярод малых дзяцей і школьнай моладзі. Тут праяўляецца лёгкадумнасць бацькоў. Трэба раз назаўсёды зразумець, што нельга без апекі выпускаць дзіця на вуліцу, або на дарогу, дзе ганяюцца самаходы.

Аддзел кантролю дарожнага руху Ваяводскай камендатуры МО ў Беластоку заклікае ўсе арганізацыі, рабочых і кіраўнікоў розных прадпрыемстваў, усіх грамадзян Беласточчыны, **каб не дазволілі п'яным людзям весці не толькі машыну, а нават фуру.** Аднačасова папярэджваецца, што для ўсялякіх п'яніц на дарогах не будзе ніякага памілавання. Міліцыя хацела б, каб маладзёжныя арганізацыі і школьныя выхавацелі ў сваіх праграмах дзейнасці больш увагі звярнулі на прысваенне ведаў з галіны асноў і законаў дарожнага руху і паводзін на дарогах.

Капітан **М. Младзяноўскі**
інструктар Аддзела
кантролю дарожнага руху
Ваяв. Кам. МО ў Беластоку

# ЦІ ПАГРАЖАЕ НАМ БЕСПРАЦОЎЕ

Залежыць гэта ад пабудовы ў Гайнаўцы фабрыкі мэблі, вырабу пліт са стружкі, драбнейшых прадпрыемстваў паслугі (хімчысткі, пральні, трыкатажных вырабаў, кравецтва і г. д.) і пабудовы фабрыкі керамікі ў Ляўкове.

Сацыялістычны промысел па рэалізацыі гэтых інвестыцый зрэдукаваў бы надвыжку рабочай сілы да 1200 асоб. У паслугах атрымала б працу каля 250 асоб, а гарадская і вясковая таргоўля дала б працу каля 150 асобам.

Астаецца каля 500 асоб, якія павінны мець працу ў сельскай гаспадарцы. У Гайнаўскім павеце існуе 600 сельскіх гаспадарак эканамічна занядбаных, таму што выступае там недахоп рабочай сілы. Каб паднесці прадукцыйнасць гэтых гаспадарак, трэба пабольшыць колькасць у іх рабочай сілы беспасрэдна ці то праз арганізацыю новага ПГР-у, ці то развіцця пасеву гародніны. Таксама большую ўвагу трэба звярнуць з боку будаўляных прадпрыемстваў. Прынялася традыцыя, што ў будаўніцтве рабочыя працуюць толькі ў час летні, а зімою іх звальняюць. Калі б так прыняць праграму інвестыцый будаўляных, каб работы вяліся і зімою (як выканчэнне), дало б гэта мажлівасці працаваць цэлы год. Самі рабочыя лепш трымаліся б такой працы, калі б яна не з'яўлялася сезоннай.

**А. Ражкевіч**
Гайнаўка

**У ПОШУКАХ НЕСПАКОЙНЫХ**

# Агонь не гасне ў Ляшуках

Наш фотарэпарцёр спазніўся, і Ляшукам, якія першымі выступалі на ваяводскім аглядзе ў Галоўным праўленні, не паспеў зрабіць здымка. Можа так і лепш. Увогуле Ляшукі добры гурток, здольныя людзі, згуртаваныя вакол непадводнага Аляксандра Харкевіча - кіраўніка тамтэйшай школы. Аб ім не раз падумаеш — адкуль у гэтага шчуплага чалавека столькі рэзвасці, сілы, маладога незгасаючага запалу. Пацвярджаецца праўда аб неспакойных духам, якія згараючы самі, распальваюць агонь вакол сябе. Дзякуючы такім людзям гэты агонь з пакалення ў пакаленне жыве і гарыць.

*

Гурток з Ляшукоў паставіў дзве п'ескі: тлумачаную з вянгерскай мовы мініятуру «Муж - разява» і вядомую, хоць наіўную беларускую даваенную камедыйку «Пярэстая Красуля». «Пярэстую Красулю» нават крытыкаваць мне знудзілася. Хацела б урэшце, каб знікла яна з гарызонта.

А «Муж - разява»? Аказваецца, не ўсё свеціцца, што чужое. Гэта аднаактоўка, дзе многа слоў а мала акцыі, што як вядома не служыць аматарам, якія часта, як у выпадку Ляшукоў, не заўсёды ўмеюць добра ролі, або не выразна вымаўляюць словы.

Увогуле барацьба за рэпертуар ідзе і стаецца ўсё больш вострай, перад усім таму, што растуць аматары. (вл)

 



На здымку: жанчына на фэсце.

# ЗВЫЧАІ Ў ТЭУАНТЭПЕК

Увайшлі мы ўсярэдзіну. Унутры каляровая дэкарацыя з папяровых фестонаў, папяровых кветак і флажкоў. Пад гукі чуллівай, расцяглай мелодыі танцуюць кабеты. Яны старыя, звыш шасцідзесяці год, але трымаюцца проста, дастойна. Такая фігура з'яўляецца рэзультатам таго, што ўсё жыццё яны цяжка працуюць, носяць на галаве кашы з гароднінаю і іншымі прадуктамі, таварамі, рэчамі. Танцуюць вельмі паважна, як бы свет для іх не існаваў. Аркестр іграе сандунгу, адну з найпрыгажэйшых мелодый Мексікі.

Шмат жанчын сядзіць пад сценамі, гавораць яны паміж сабою, або ядуць стравы, якія падносяць тут у гліняных місачках. Усе ў народных уборах, некаторыя па-святочнаму апранутыя з незвычайна каляровымі кветкамі на матэрыяле. Найбольшую аднак увагу зварочвае прыбранне іх галавы і біжутэрыя. У валасы маюць ушпіленыя флажкі, штучныя кветкі, каляровыя шарыкі, грэбені, а нават папяросы. Выглядае ўсё на густоўны сметнік. А іх грудзі, вушы, рукі абвешаныя праўдзівымі каштоўнасцямі. Браслеты, кольчыкі і коліі зробленыя з залатых манет амерыканскіх долараў або залатых мексіканскіх грошай званых песос. Дарагія гэта аздобы.

— Біжутэрыя, гэта наш банк, — кажуць мясцовыя людзі. — Гэта нашы грошы і ў выпадку патрэбы пазычаем іх. Усе ашчаднасці ў сям'і прызнаюцца на залатую біжутэрыю для жонкі і дочак.

Да танцуючых жанчын час ад часу далучаецца мужчына. Аркестр іграе штораз новыя мелодыі.

Так адбываецца ў мексіканскім мястэчку Тэуантэпек фэст у гонар святога Іпаліта. Самыя мексіканцы — скрыжаванне індзейцаў і іспанцаў, скрыжаванне двух народаў розных рас. Фэсты ў Мексіцы вельмі папулярныя, адбываюцца яны з розных нагод.

Звычай фэстаў у Тэуантэпек характарызуецца тым, што адбываюцца яны вельмі часта; адбываюцца ў розных месцах горада, у гонар кожнага святога, імем якога названы шматлікія тут касцёлы.

Калі надыходзіць дзень, у якім мае адбыцца фэст у гонар нейкага святога, тады ўжо а чацвёртай гадзіне раніцы збіраюцца людзі ў тым касцёле, які носіць імя данага святога. Пад акампаніямент аркестру співаюць рэлігійныя песні. Спяваюць іх роўна дзве гадзіны. Пасля гэтага ўсе ідуць танцаваць, весяліцца, дораць адзін другога рознымі падарункамі. Так працягваецца да шостай гадзіны вечара. На фэст прыходзяць людзі і з другіх раёнаў Тэуантэпек, асабліва, жанчыны. Праз наступныя дні даецца першынство ў забаве старэйшым жанчынам.

Забавы пачынаюцца ад рэлігійных спеваў у касцёле.

У Тэуантэпек пятнаццаць касцёлаў. Нічога дзіўнага, што ў гэтым горадзе амаль круглы год не сціхаюць забавы, штораз у іншым месцы.

Але вось кончыўся фэст у гонар святога Іпаліта, а ў суседнім раёне горада якраз рыхтаваліся ўжо да фэсту ў гонар святога Ізыдара, (там касцёл імя св. Ізыдара). Натоўп падпітых жанчын і мужчын, сярод якіх відаць і ксяндзоў, трымаўся за рукі і танцаваў весела перад касцёлам. Гэты натоўп штораз крычаў хорам: «Хай жыве святы Ізыдар!!».

Маецца ўражанне, што бедныя мексіканцы — хаця і з залатою біжутэрыяй — стараліся гэтымі выкрыкамі выказаць сваю ўдзячнасць святому Ізыдару за тое, што даў ім прычыну да яшчэ адной забавы ў іх жыцці. Традыцыя, звычай гэтакіх забаваў застаўся ад часоў, калі ў цяперашняй Мексіцы не было яшчэ іспанскіх каланізатараў, былі адны індзейцы. Індзейскі гэта звычай. Прыстасаваны ён да патрэб мацавання новай рэлігіі — каталіцызму.

(а-ся)

ЦУДЫ НАШАГА ВЕКУ

# ШТУЧНАЯ НЫРКА

Трывожнае, хапаючае за душу выццё сірэны парушыла цішыню. Шахцёр Васіль Дубовік, малады, жыццярадасны чалавек, паміраў. Пасля няшчаснага выпадку дрэнна працавалі ныркі. Наступіла агульнае атручванне арганізма.

— Усё гатова да аперацыі!

Мінае 10—15 хвілін і хірург Канстанцін Капралаў уступае сваё месца ля аперацыйнага стала інжынеру Канстанціну Целешу. Ён спраўна ўключае новы, пакуль што адзіны на Беларусі, апарат. Лекары і медсёстры Мінскай абласной клінічнай бальніцы з затоеным дыханнем глядзяць на цуда тэхнікі, канструктарам якога з'яўляецца інжынер Целеш. У ім уся надзея.

Апарат імгненна ажывае. Бясколерны куб афарбоўваецца ў чырвоны колер. У яго пачала паступаць кроў з вены хворага. Штучная нырка выдатна служыць чалавеку. Прынцып работы апарата зусім просты. Ён пабудаваны на аснове вядомага фізічнага закона — дыфузіі: калі два растворы аддзяліць ад сябе тоненькай перапонкай, заўсёды рэчыва будзе пранікаць з раствора болей насычанага ў менш насычаны — пакуль насычанасць абодвух раствораў не выраўняецца.

Чалавечая нырка ачышчае кроў з надмеру раствораных у ёй і ўжо не патрэбных, а нават шкодных для арганізма розных рэчываў. Падобная замена (дыфузія) адбываецца ў штучным апараце канструкцыі інж. Целеша. Тут кроў хворага праходзіць па суседску з растворам менш насычаным. Іх раздзяляе толькі цэлафанавая плёнка. Праз яе менш насычаны раствор як бы высоссвае раствораныя ў крыві хворага шкодныя рэчывы. Ачышчаная гэтым чынам кроў паступае назад у арганізм.



На здымку: у аперацыйнай Мінскай абласной клінікі ідзе аперацыя з прымяненнем апарата «штучная нырка».

Мінула чатыры гадзіны. Інжынер Целеш штораз змяняў рэжымы працы сваёй «ныркі», насычаў кроў неабходнымі медыкаментамі, імгненна праводзіў складаныя разлікі.

Некалькі год таму назад у падобных выпадках памірала 90 чалавек са 100. Але Васіля Дубовіка выратавала ад смерці «штучная нырка». Яна часова замяніла функцыю гэтай сапраўднай, прыроднай. Гэта дало лекарам патрэбны час на правядзенне неабходнай аперацыі. Адначасова адпачываў змучаны змаганнямі са смерцю арганізм хворага.

**Нейтрына**





## БЯСПЛОДНАСЦЬ

Што з'яўляецца прычынаю няздольнасці жанчыны мець дзіця, інакш — бясплоднасці? Найважнейшая — гэта запаленчыя працэсы жаночай палавой сферы, якія найчасцей бываюць пасля абортаў. Штучнае перарыванне цяжарнасці выклікае большую палавіну выпадкаў бясплоднасці. І вось тут перасцерагаю жанчын, якія лёгкадумна рашаюцца на аборт. А калі ўжо жыццёвая сітуацыя прымушае іх абавязкова перарваць цяжарнасць, дык тады трэба пайсці толькі і выключна да лекара спецыяліста — гінеколага, а не да нейкай там «бабкі», што часта на вёсцы сустракаецца. Трэба памятаць, што і пасля правядзення аборту лекарам — гінеколагам можна ўжо ніколі больш не стаць маці.

Аперацыйныя ўмяшанні ў часе родаў і пасляродавыя захворванні таксама могуць быць прычынамі бясплоднасці. Немалую ролю адыгрываюць і іншыя захворванні, як: туберкулёз, хваробы крыві, атлусценне, хранічнае атручэнне алкаголем, нікацінам, недахоп у ежы вітамінаў, псіхічны стан жанчыны і інш.

Усялякіх прычын надта многа. У сувязі з тым і спосабаў лячэння таксама многа. Тут і лекавыя воды, і святло, гразелячэнне, электралячэнне, парафін, гарманальныя прэпараты, масаж. Лячэнне бывае доўгае і працяглае, складаецца з некалькіх этапаў і таму трэба забяспечыцца ў цярплівасць. Неабходна даводзіць лячэнне да канца, дакладна выконваць урачэбныя назначэнні. Потым многія жанчыны пасля лячэбнага курса ў лекара — гінеколага ў жаночай амбулаторыі (przychodnia „K") выязджаюць у санаторыі, якіх у нашай краіне многа. Хворая жанчына на бясплоднасць павінна знаходзіцца пад назіраннем урача так доўга, пакуль не стане цяжарнай.

**Аксіння**

# УСХОДНІЯ ПЕРЛЫ

Японія штучна гадуе перлы. Гадоўля іх тут настолькі развітая, што Японія пакрывае амаль цалкам сусветныя патрэбы на гэты каштоўны тавар. Першы раз выгадаваў перлу спрытны Мікімота ў 1893 годзе. Была гэта паўкруглая перла. У 1901 годзе выгадаваў ён круглую перлу. У 1946 годзе гадоўля перлаў у Японіі дасягнула 187 кілаграмаў. У 1963 годзе было ў Японіі 4 078 гадоўцаў перлаў, якія выгадавалі 88 тон гэтага каштоўнага тавару. Дзесяць японскіх гадаўляных фірм развівае сваю дзейнасць заграніцай: у Аўстраліі, Бірме, Сіяме, на Філіпінах, і на паўночным Барнео. (а-ся)

**АЛЯКСЕЙ КАРПЮК**

# ПУШЧАН-СКАЯ АДЫСЕЯ

**У Каралёўскай пушчы ёсць мясціна — Перацёсы. Там ля безыменнай рэчачкі, пад векавымі соснамі і амшэлымі елкамі туліцца братняя магіла. Яе моцна прысыпала ігліцай, шышкамі, дубовы крыж спарахнеў. У гэтай магіле пахавана 64 беларускія і польскія паўстанцы з часоў Кастуся Каліноўскага і Валерыя Врублеўскага.**

**Пастушкамі мы бегалі ў Перацёсы да пакалечанай сасны шукаць захаваны скарб. Дырэктар Гарадоцкай сямігодкі Юзаф Брыль вадзіў нас на экскурсію. Ён і расказаў гісторыю гэтай мясціны. У Пілатоўшчыне адзін здраднік узяўся за сто рублёў выдаць групу. Дзядзька наладаваў воз саломы, пасадзіў наверх сына, паехаў у лагер. Сам кіраваў канём, сын кідаў на дарогу саломінкі. Па такім следу рускія войскі і прыйшлі ў лагер. Слухаў тады я Брылева апавяданне і шкадаваў, што позна нарадзіўся, не магу адпомсціць здрадніку. Тады і не снілася, што лес закіне мяне сюды для больш сур'ёзнай справы і што я ледзь не злажу галавы ў такім рамантычным месцы.**

*

**Недзе пад Мінскам выбітыя з пазіцый нямецкія танкавыя і матарызаваныя пяхотныя дывізіі запрудзілі пад палі і шашы. На гэтых дарогах з нашай зброяй і адсырэлымі патронамі няма чаго рабіць. Ад Вайцяхоўскага прыходзіць загад: адвесці атрад у бяспечнае месца і чакаць нашых войск. Пачалі мы думаць, куды падацца, і ўспомнілі гэтыя самыя Перацёсы — глухія, адны балоты ды зараснікі...**

**Нямецкія лавіны войск на шашы і трактах адрэзалі нас ад вёсак — базаў харчавання, мы галадаем. У перацёсаўскія гушчары зашыліся з дамовым скарбам сяляне з бліжэйшых вёсак, ля іх можна пажывіцца. Адным словам, Перацёсы нам падыходзяць з кожнага боку. І мы разбіваем у іх лагер.**

**Месца для стаянкі выбіраем сухое, абкружанае густымі зараснікамі і дрыгвою. Калі хто сюды лезе, то чуваць за кіламетр. Непадалёку з усходу на захад ідзе просека — таксама зарослая, гразкая, няходжаная. За ёй — буданы сялян.**

**Паведаміўшы ў штаб брыгады пра сваё новае месца дыслакацыі, ад Вайцяхоўскага атрымліваю яшчэ загад: узяць пад ахову сялян. Узяць дык узяць. Выстаўляем пасты, выбіраем старшынь, тлумачым сялянам, як трымацца ў выпадку небяспекі, і чакаем.**

**Набліжаецца фронт. Ад Ваўкавыска нарастае гул артылерыі. Хлопцы рвуцца ў бой. Я іх разумею. Штаб брыгады адправіўся з-пад Беластока пад Прусію, я паслаў туды добраахвотнікаў з кулямётамі, але ж усіх адпусціць не магу. Застаецца нас чалавек шэсцьдзесят, сярод іх жанчыны і людзі свежыя, неабстраляныя, куды нам вылазіць супроць узброеных да зубоў дывізій, якія адступаюць арганізавана? Застаецца прытаіцца, маўчаць.**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**



Перацёсы. Магіла паўстанцаў.

Фота Ул. Паўлючук



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЛІСТ АД КАРЭСПАНДЭНТА

Добры дзень, дарагая «Ніва». Тваё пісьмо я атрымаў 17 мая г. г. Чытаючы яго, мне сорамна стала, што я, Твой карэспандэнт, забыўся пра цябе, а Ты маючы многа карэспандэнтаў аба мне ўсё роўна не забылася і напісала мне пісьмо з просьбай, каб я паведаміў цябе, што са мной сталася. І вось я абавязкова пастанавіў Табе напісаць аб сваім цяперашнім жыцці.

Праўду кажучы я аб Табе, «Ніва», не забыў і напэўна ніколі не забуду, я толькі перастаў да Цябе пісаць, а чытаць чытаў кожную Тваю і «Зоркі» старонку.

Дарагая «Ніва», за апошні час у мяне многа прыбавілася работы. У ліпені мінулага года мне ўручылі работу бібліятэкара ў бібліятэчным пункце сваёй вёскі. Цяпер у мяне многа кніжак, якія я выпазычаю кожнаму, хто толькі любіць чытаць. Восенню мінулага года я ўступіў у гурток ЗМВ, а ў лютым 1966 года сябры і сяброўкі з нашага гуртка выбралі мяне сваім старшынёю. Нядаўна я таксама ўступіў у сельскагаспадарчы гурток у сваёй вёсцы. Стаў таксама ганаровым карэспандэнтам Галоўнага праўлення статыстыкі ў Варшаве і цяпер я наглядаю за ўраджаямі агародніны, садоў і свае заўвагі перасылаю ў Варшаву. Да таго ж я з'яўляюся вучнем II класа СПР-у ў Семяноўцы. У нас цяпер толькі практыка, а пасля заканчэння СПР-у думаю паступіць у 3-гадовы карэспандэнцыйны сельскагаспадарчы тэхнікум у Ружанымстоку. Я вельмі люблю навуку, але не маю магчымасцей паступіць на дзённую школу і таму вымушаны вучыцца завочна. Памагаю ў далейшым апрацоўваць гаспадарку бацькам, а калі маю вольны час, тады зноў хочацца пагутарыць с сябрамі і сяброўкамі і гэтак далей і далей. Хочацца жартаваць і смяяцца, бо маладыя гады хутка мінаюць. Вясною гэтага года я купіў сабе новы матацыкл, чорнага колеру, ВСК, за 7000 зл. Цяпер ужо не трэба круціць педалей веласіпеда нагамі, а хопіць толькі запусціць матор і можна ехаць. Дарагая «Ніва», на гэтым я закончу апісваць пра свае асабістыя навасці і хачу Цябе запэўніць, што буду прысылаць у рэдакцыю напісаныя артыкулы са свайго асяроддзя.

Жадаю Вам усяго найлепшага ў Вашай працы і ў асабістым жыцці.

**Янка Бура**
Тарнопаль

## НОВАЯ ЛІНІЯ ПКС

Ад 22 мая вёска Крушыняны, што на Сакольшчыне, спалучана са «светам» яшчэ адной лініяй ПКС-у. Аўтобусам з Крушынян беспасрэдна едзецца ў Беласток праз Крынкі і Супрасль. Вельмі выгадна стала сялянам нашай вёскі. Да нядаўна аўтобус ПКС-у ездзіў трасай праз Крынкі ў Саколку. Каб дастацца ў Беласток неабходна было перасядаць яшчэ на цягнік. А цяпер такая выгода для сялян.

**А. Макаль**
Крушыняны

## СХОД

Нядаўна адбыўся сход у прэзідыуме ГРН Трасцянка. На сход былі паклікаsuccessive вясковыя праўленні сельскагаспадарчых гуртkoў з усёй грамады. На сход прыехаў кіраўнік ПЗКР інжынер А. Ражкевіч, які запазнаў сабраных з дасягненнямі гурткоў у Гайнаўскім павеце. Прачытаў ён план дзейнасці праўлення ПЗКР на будучыя гады. Інжынер Ражкевіч многа клаў націску на канцэнтрацыю сельскагаспадарчых машын.

**«Ярош»**
Белкі

## У СПРАВЕ ХЛЕБА

У Чыжах ёсць шмат сем'яў, якія не маюць гаспадарак і не маюць магчымасці выпеку хлеба (8 настаўнікаў, пастарунак міліцыі, лекар, начальнік пошты — усе яны з сем'ямі). Было шмат пастулатаў і просьб накіраваных да павятовых улад у Гайнаўцы адносна давозу 2 разы ў тыдзень па 20 кілаграмаў хлеба ў чыжоўскую спажывецкую краму. У гэтай справе гайнаўскі ПЗГС дагаварыўся быў з пякарняй у Орлі, каб патрэбную колькасць хлеба кожны тыдзень дастаўляць у Чыжы. Некалькі разоў хлеб быў прывезены і на гэтым усё скончылася. Успамянутыя сем'і праз знаёмых і аднавяскоўцаў прывозяць хлеб з Гайнаўкі.

На далейшыя інтэрвенцыі зацікаўленых сем'яў адносна давозу хлеба ў Чыжы ў Гайнаўцы адказваюць улады, што гайнаўскіх пякарняў прадукцыйная моц невялікая і ледзь хапае хлеба для самой Гайнаўкі і таму хлеба ў Чыжы не давозяць. Як вынікае з гэтых фактаў, патрэбна тут толькі добрая воля ПЗГС-у ці іншых устаноў, і справа будзе ўладжана.

**Янка Грамадскі**
Чыжы

## ЧЫТАЧЫ ПЫТАЮЦЬ — „НІВА" АДКАЗВАЕ

**Пытанне:**

Павятовы суд у 1965 г. прысудзіў мне на дзіця ад гр. В. па 400 зл. аліментаў у месяц. У лістападзе 1965 года Ваяводскі суд гэтае рашэнне зацвердзіў. У сакавіку 1966 года гр. В. звярнуўся ў павятовы суд з позвай аб абніжэнні аліментаў, тлумачачы гэта тым, што ён не можа плаціць так высокіх аліментаў. У сапраўднасці ён мае гаспадарку 12 га, даходнасці звыш 30 тысяч у год. Ці можа суд абніжыць аліменты?

**Адказ:**

Закон прадбачыць магчымасць абніжэння або падвышэння аліментаў у выпадку, калі матэрыяльная сітуацыя або сямейныя абставіны бацькі або маткі значна пагоршыліся, або палепшыліся, або калі патрэбы дзіцяці значна ўзраслі. У вашым выпадку, калі нічога ад правамоцнасці судовага рашэння не змянілася, няма ніякіх асноў да патрабавання абніжэння аліментаў.




**ДАРАГОЕ СЭРЦАЙКА!**

Многа ты дапамагаеш усім чытачам, таму прашу цябе, каб і мне дапамагла. Маю 18 год, скончыў пачатковую школу і сельскагаспадарчую падрыхтоўку. Хачу паступіць на якую-небудзь работу, бо адносіны паміж мною і маімі бацькамі не найлепшыя, проста аж прыкра мне аб гэтым пісаць. Калі дапаможаш, вельмі буду табе ўдзячны.

**Толік**
з Бельшчыны

Шаноўны ТОЛІК!

У тваёй справе мы звярталіся да Ваяводскай рады ў Беластоку і атрымалі там выясненне, што можна атрымаць працу ў Павятовым пасрэдніцтве працы ў Бельску або ў Гайнаўцы. Гэтыя два пасрэдніцтвы працы праводзяць набор на работу ў Ольштынскае прадпрыемства прамысловага будаўніцтва, а таксама на працу ў Гданьскае меліярацыйнае прадпрыемства. Можна таксама атрымаць працу ў так званым Аб'яднанні вугальнай прамысловасці — Бытом. Калі хочаш даведацца пра ўмовы працы і заработку павінен ты звярнуцца асабіста да Павятовага пасрэдніцтва працы ў Бельску або Гайнаўцы, дзе табе падрабязна растлумачаць усё. Можам толькі дадаць, што пасрэдніцтвы гэтыя могуць аплаціць твой праезд да выбранага месца працы.

Шаноўны Толік, паспяшайся чым хутчэй выясніць гэтыя справы, бо як кажуць «адклад не ідзе ў лад».

Жадаю табе поспехаў

**Сэрцайка**

## Сустрэчы з журналістамі

З ініцыятывы Павятовай бібліятэкі і аддзела БГКТ у Гайнаўцы ў Днях асветы, кніжкі і прэсы адбыліся спатканні з журналістамі «Нівы» ў наступных вёсках: Ставішчы, Кузава, Пасекі, Чаромха, Чыжы, Лянева, Кленікі і Збуч. Журналісты «Нівы» Міхась Хмялеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Аляксей Карпюк, Уладзімір Паўлючук і Сакрат Яновіч расказвалі прысутным аб беларуска-польскіх культурных сувязях, аб удзеле беларусаў у сацыялістычным будаўніцтве ў народнай Польшчы, а таксама аб некаторых пытаннях дзейнасці Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы і рэдакцыі штотыднёвіка «Ніва». Прысутныя, між іншым, цікавіліся таксама тэхнічнымі справамі прадукцыі часопіса «Ніва», якія наогул мала вядомыя на вёсцы.

**Віктар Бура**
Гайнаўка



Старога дзеяча пажарнай каманды з Орлі дэкаруюць сярэбраным стражацкім медалем.

## АДЗНАЧЭННІ ПАЖАРНІКАЎ

У дзень пажарніка (22 мая) ў Бельскім павеце найбольш актыўным пажарнікам былі ўручаны адзначэнні.

**Павал Зінкевіч**
Бельск

## РАСКАЗ ДЗЯДЗЬКІ РЫГОРА

— Аб чым задумаліся, хлопцы?

— Аб чым? Вядома, аб жаніцьбе.

— Аб ёй няма чаго думаць. Прыкмеціў дзяўчыну, ды жаніся. Гэта не так, як раней, сватоў пасылай, бацькоў намаўляй.

Вось раскажу вам пра адны сваты. Сватаў я часта, наездзіўся, папапіў.

І тут дзядзька ўсміхнуўся, прыпамінаючы аб нечым. — А было гэта вясною. Вось так, як цяпер, па Вялікадні. Сусед мой задумаў жаніць сына. Мікалаем яго звалі. Хлапец быў нічога сабе, і гаспадарка адпаведная была. Толькі што ён крышку недабачваў на адно вока. А так, першы кандыдат на жаніха. Паехалі мы ў сваты. Па дарозе чорт надаў цыгана. І то знаёмага. Узялі яго з сабою. Няхай паможа. І памог. Ніколі аб гэтым не забуду. Заехалі. Дзяўчына, як кветка, прыгожая, маладая. Вось, думаю, ажэнім Міколу! Аж шкада стала дзяўчыну. Пачалі гасцяваць.

А сваты давай расхвальваць маладога, каб дайсці да скутку.

Кажу я: добры хлапец. А цыган паўтарае: вельмі добры. Мае свайго каня і карову. А цыган кажа: двое коней і дзве каровы. Хату мае добрую і гаспадарку. Цыганіска дабаўляе: дзве хаты ў яго і дзве гаспадаркі. Ну, думаю, ажэнім. Кажу я нясмела: ён толькі крыху на адно вока не дабачвае. А цыган як дабавіў! То ж ён на абое вочы сляпы як авадзень. Мяне аж заткала. Думаю, канец сватам.

І мы не стрымаліся, зарагаталі.

— А вы што рагочаце, хлопцы! — крыкнуў дзядзька. — Ведайце адно! Усё залежыць ад сватаў.

— А што з Міколам? — запытаў нехта.

— Што? Так і памёр не жанатым.

**Г. Мароз**
Стараберазова

## ЗАЙЗДРОСНАЯ РАЗНЯ?..

Кленіцкія спартсмены шырока вядомыя сваімі спартыўнымі дасягненнямі. Здабываюць яны ўзнагароды нават ваяводскага значэння. Дзяўчаты-спартсменкі з секцыі ручнога мяча дабіліся добрага месца ў акруговай лізе.

Таму незразумелымі з'яўляюцца розныя хуліганскія выбрыкі, якія моцна перашкаджаюць у рэгулярнай спартыўнай дзейнасці ў Клéніках, Гайнаўскага павета. Напрыклад, нядаўна хтосьці парэзаў валейбольную сетку... На злосць ці ад зайздрасці? Так ці іначай не чыніць гэта добрай славы. А ананімнаму хулігану можна прыпомніць старую пагаворку: «Да пары збан ваду носіць»... (ся)

# ЦЭНЫ

Ваяводская камісія цэн пастаянна сочыць за цэнамі на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны (у злотых):

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 280 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 460 | 390 | 360 |
| яйкі | 1 шт. | 1,50 | 1,50 | 1,40 |
| масла | кг | 60 | 60 | 50 |
| ялавічына | кг | 37 | — | — |
| свініна | кг | 40 | 37 | — |
| сала | кг | 33 | — | — |
| бульба | цэнт. | 145 | 75 | 90 |
| цыбуля | кг | 5 | 4 | 3 |
| капуста | кг | — | — | — |
| морква | кг | 2 | 4 | 3 |
| буракі | кг | 3 | 3 | 3 |

# КІНО

**Праграмы на 14—19. VI. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Kto sieje wiatr" (USA), 14—15. „Czarne skrzydła" (polski), 16—17. „Rękopis znaleziony w Saragossie" polski), 18—19.

**Дубіны**

„Ostatni lot" (radz.), „Winda towarowa" (franc.), 18—19.

**Нарва**

„Człowiek, który zabił Liberty Valencea" (USA), „Wojna trwa" (włoski), 15—19.

**Нараўка**

„Ambicja" (radz.), „Czas miłości" (rumuński), 15—19.

**Чыжы**

„Cena odwagi" (bułg.), „Orkiestra wojskowa" (węgierski), 15—19.

**Дубічы Царкоўныя**

„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek I-ego stulecia" (czeski), 15—19.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Орля**

„Czarne i białe" (USA), „Nieprzyjaciel u progu" (radz.), 15—19.

**Райск**

„Okres próbny" (radz.), „Obca krew" (radz.), 15—19.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Sklep przy głównej ulicy" (czeski), 14—15. „Wystrzał" (pol.), 16—17. „Podróż balonem" (francuski), 18—19.

**Міхалова**

„Ruda Julka" (franc.), 14—15. „Mój stary" (polski), 16—17. „Kraksa" (radz.), 18—19.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Czarne skrzydła" (pol.), 14—15. „Był sobie dziad i baba" (radz.), 16—17. „Troje i las" (pol.), 18—19.

**Мілейчыцы**

„Z soboty na niedzielę" (angl.), 14—15. „Johm i Erdme" (NRF), 16—17. „Niedziela sprawiedliwości" (pol.), 18—19.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Шудзялава**

„Skarb" (pol.), „Profesor Mamlock" (NRD), 15—19.

**Сідра**

„Podróż nie z tej ziemi" (jugosłowiański), 14—15. „Zdarzyło się w Rzymie" (włoski), 16—17. „Najdroższa" (radz.), 18—19.

**Сухаволя**

„Troje i las" (polski), „Miłość jednej nocy" (rumuński), 18—19.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„Walkower" (pol.), „Przygody Krosza" (radz.), 18—19.

У мясцовасці Боцькі, Кляшчэлі, Крынкі, Янаў, Новы Двор фільмы высвятляцца не будуць.

НІВА

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 2-6-51. Prenumeratą roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

Nakład 5458. Bltk D-3

